ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 89(5271)
Чацвер, 9 жніўня 2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Вёска без ліцэяў

**Аляксандр Іванавіч Емяльянаў, загадчык Бабруйскага раённага аддзела адукацыі Магілёўскай вобласці:**

— Мяне вельмі непакоіць лёс сельскай школы, яе развіццё, бо наш раён выключна сельскі, у які ўваходзіць 16 сярэдніх, 4 базавыя і 1 пачатковая школы, а яшчэ 15 дзіцячых садкоў, ВВК, сацыяльны прытулак і спецшкола. У гарадах ужо даўно арганізуюцца ўстановы новага тыпу — гімназіі, ліцэі. На вёсцы ж такое зрабіць пры такіх умовах проста нерэальна. Ужо сёння назіраецца вялікая розніца паміж вучнем гарадской і сельскай школы. Апошні шмат чаго недаатрымлівае. І гэты разрыў будзе яшчэ павялічвацца. Рэформа школы прадугледжвае стварэнне ў старшых (11-12) класах ліцэйскага накірунку. Але ж незразумела, як ён будзе выглядаць на вёсцы.

Мы жывём у час вялікага тэхнічнага прагрэсу, а карыстацца яго пладамі не маем магчымасці. У нас няма самага элементарнага — добрых камп'ютэраў, ксеракса, факса і г.д. На ўвесь раён працуе адзін камп'ютэрны клас з больш-менш навейшымі машынамі. Вёска традыцыйна застаецца ў баку ад усялякіх новаўвядзенняў.

Што ў нас з педагагічнымі кадрамі? Іх не хапае, і праблема не вырашаецца з-за таго, што на вёсцы не будуецца жыллё, таму, што там няма ніякіх культурна-бытавых устаноў. Моладзь уцякае, нам жа застаецца працаваць з пенсіянерамі. А з імі пра навацыі не даводзіцца весці гаворку. Сёлета па размеркаванні да нас у раён павінны прыехаць 18 маладых спецыялістаў, 13 з якіх — настаўнікі пачатковых класаў, але ж нам не патрэбны такія спецыялісты. Мы маем неабходнасць у настаўніках матэматыкі, фізікі, моў, хіміі, біялогіі.

Матэрыяльна-тэхнічнае становішча нашых школ выклікае цяжкія пачуцці. Вось зараз — час рамонту. Пяць школ у раёне патрабуюць капітальнага рамонту. З раённага бюджэту мы атрымліваем на гэтыя патрэбы амаль капейкі. Кожная школа, яе кіраўніцтва пасвойму выходзяць са становішча — шукаюць фундатараў, бацькоў падключаюць, самі зарабляюць, працуючы на калгасных палетках і фермах. Але ж, шчыра кажучы, хапае ўсё роўна толькі на так званы касметычны рамонт. А ўсё ж гэта адбіваецца на здароўі нашых дзяцей. Яны сядзяць за маленькімі партамі, глядзяць на старую дошку, пішуць "нябачнай" крэйдай.

І яшчэ ёсць адна праблема, якую неабходна хутчэй вырашаць — праблема сям'і, сіроцтва пры жывых бацьках. На вёсцы здараюцца такія выпадкі, калі бацькі кідаюць сваіх дзяцей і выязджаюць немаведама куды. За мінулы год у нас 13 бацькоў былі пазбаўлены сваіх правоў. У нашым прытулку зараз знаходзіцца 27 дзяцей, якіх няма куды ўладкаваць. Сёння трэба дапамагчы сям'і, толькі так можна ўратаваць дзяржаву.

## Пазбавіцца ад залішняй апекі

**Валянціна Ткачова, настаўніца рускай мовы і літаратуры Краснапольскай сярэдняй школы № 1 Магілёўскай вобласці, дэлегат II з'езда настаўнікаў:**

— Сапраўднай першаасновай велічаюць настаўніка. Таго, хто абуджае розум чалавека, яго таленты і здольнасці, хто закладвае ўяўленне пра свет, пра дабрыню і зло. Чаму ж педагог ператварыўся ў служачага-падзёншчыка, які нагружаны бясконцымі абавязкамі, апрача галоўных — быць тым, хто глядзіць на некалькі пакаленняў уперад, фарміруе і выхоўвае будучых грамадзян?!

Дваццаць пяць гадоў я прастаяла за настаўніцкім сталом. Хочацца напісаць — "за станком", бо ў маёй рабоце было многа механічнага, атупляючага, закладзенага праграмай: некалькі пісьменнікаў, некалькі кніг, дакладны пералік ведаў і ўменняў вучняў, якія яны павінны былі засвоіць пад маім кіраўніцтвам.

Мы былі робатамі і робатаў штампавалі. "Настаўнік-робат"... Многім гэта словазлучэнне — не па душы. Але калі ўсё-такі звярнуцца, у першую чаргу, да сумлення?.. Атрымліваецца наступнае: шмат напісана і сказана пра вялізную перагрузку настаўніка, пра праверку сшыткаў і неўпарадкаванасць быту, асабліва ў сельскай мясцовасці, пра прыкрыя праверкі "інстанцыямі", пра многае і многае іншае, якое прыгнятае і падаўляе асобу настаўніка і ператварае яго ў "чалавека-машыну" — урокадаўцу.

Як цяжка было таму педагогу, які хацеў і змог захаваць і высока несці сцяг сапраўднай інтэлігентнасці, незаспакоенасці, патрабавальнасці да сябе і другіх. Зараз многае па-іншаму. Аднак праблем і сёння хапае, і нікуды нам ад іх не дзецца.

Настаўніцтва спадзявалася, што сістэма аплаты працы дасць магчымасць мець вучэбную нагрузку настаўнікам, якая б дазволіла палепшыць падрыхтоўку да ўрокаў, больш поўна рэалізаваць свой творчы "патэнцыял". Тым не менш гэта праблема так і засталася нявырашанай. А аплата за праверку сшыткаў? Хто хоць раз спрабаваў зразумець неразборлівае пяро, той ведае, якога цярпення патрабуе гэта праца. Дзе, якая праца ў краіне яшчэ так аплочваецца?!

Калі я аддаю ў цырульні за пятнаццаць хвілін работы з маёй немудронай стрыжкай дзве тысячы, то кожны раз успамінаю пра вечны груз неправерaных сшыткаў, і становіцца балюча, крыўдна і шкада сябе. У апошні час — асабліва, бо ўсе навокал сталі старанна лічыць свае даходы, а мы саромеемся заявіць пра несправядлівасць у адносінах да нас.

Гэта — праблема? Так, праблема. І адна з прычын таго, што нашы былыя вучні, якія заканчваюць педагагічныя навучальныя ўстановы, не асабліва імкнуцца працаваць па спецыяльнасці.

Лічу, што адносіны да настаўніка і яго працы трэба рашуча мяняць. Пазбавіць яго ад залішняй апекі, зняць падазронасць у адносінах да пошукаў і знаходак яго, максімальна вызваліць час і сілы для галоўнага. Ліквідаваць усе перашкоды і стварыць годныя матэрыяльныя ўмовы для творчай працы настаўніка.

**Падрыхтавала Святлана КІРСАНАВА.**



Юныя жыхары старажытнага Друцка (цэнтр былога Друцкага княства, цяпер вёска ў Талачынскім раёне). Сёлета адзначаецца 1000-годдзе Друцка.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Абітурыент–2001

## Першы набор

***Скончыліся ўступныя экзамены ў ВНУ нашай краіны. Эстафету перанялі сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. З першага жніўня пачаліся ўступныя экзамены ў каледжах і тэхнікумах.***

Я завітала ў Індустрыяльна-педагагічны каледж Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі, каб даведацца, як тут ідзе прыёмная кампанія, ці паявіліся змены. Каледж рыхтуе спецыялістаў па трох спецыяльнасцях: "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва", "Санітарна-тэхнічнае абсталяванне будынкаў" і "Працоўнае навучанне" (тэхнічная праца). План прыёму на дзённае аддзяленне складае 360 чалавек, на завочнае — 80. Агульны конкурс — прыкладна 1.7 чалавека на месца. Як і чакалася, за кошт абітурыентаў, якія не паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, конкурс павялічыўся. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца спецыяльнасць "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва", што абумоўлена патрабаваннем часу. Дарэчы, на завочнае аддзяленне на гэтую спецыяльнасць прымаюцца толькі выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, якія да таго ж працуюць па спецыяльнасці.

Усе абітурыенты здаюць два экзамены: матэматыку (вусна) і пішуць дыктоўку на рускай або беларускай мове (па выбары). Выдатнікі маюць палёгку: яны могуць быць залічаны, калі напішуць дыктоўку на пяцёрку. Існуюць ільготы і для "мэтавікаў". Для іх — асобны конкурс. Сёлета мэтавы прыём ажыццяўляецца толькі для ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама (па загаду Міністэрства адукацыі).

Ёсць у прыёмнай кампаніі каледжа новаўвядзенні, пра якія паведаміў Уладзімір Якаўлевіч Кановіч, прарэктар па вучэбна-вытворчай рабоце Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі і кіраўнік Індустрыяльна-педагагічнага каледжа:

— Прыёмная кампанія гэтага года вызначаецца складам абітурыентаў. У мінулыя гады на спецыяльнасці "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва" і "Санітарна-тэхнічнае абсталяванне будынкаў" залічваліся толькі выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, ды яшчэ з рабочай кваліфікацыяй. На спецыяльнасць "Працоўнае навучанне" — выпускнікі сярэдніх школ. Сёлета на спецыяльнасць "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва" вырашылі прымаць і выпускнікоў школ. Уводзяцца новыя вучэбныя планы, якія дазволяць усім навучэнцам набыць падрыхтоўку аднаго ўзроўню.

З верасня 2000 года Індустрыяльна-педагагічны каледж уваходзіць у склад Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі. На базе каледжа і інстытута падрыхтавана глеба для набыцця выпускнікамі вышэйшай адукацыі. У гэтым годзе праходзіць першы набор па дзвюх спецыяльнасцях: "Прафесійнае навучанне" (інжынер-педагог) і "Прафесійна-педагагічная дзейнасць" (выкладчык спецыяльных дысцыплін вытворчага навучання). Ужо адбыўся набор адной групы на дзённую форму навучання, у пачатку верасня будзе набірацца група завочнай формы. Залічэнне праводзіцца па выніках субяседавання. Будучыя выпускнікі згаданых спецыяльнасцей — выкладчыкі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Лета–2001

## Сонца было ўдосталь

***Гэтым летам у аздараўленча-спартыўным летніку санаторыя-прафілакторыя Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, які размясціўся ў маляўнічым паўднёвым кутку Мінскага мора, адпачнуць і папраўяць сваё здароўе больш як 250 студэнтаў з усіх факультэтаў БДПА.***

Маладых людзей, якія прыбылі ў санаторый-прафілакторый, абавязкова правяраюць на "трываласць" высокакваліфікаваныя ўрачы, а потым дапамагае ім "падрамантавацца" добрая лячэбна-аздараўленчая база з найноўшым абсталяваннем. Гэта і прывабл іvae многіх супрацоўнікаў, студэнтаў для паездкі ў свой санаторый. І Крым, і Каўказ не патрэбны!

Закончылася сесія — і прывітанне, лета! Мы, члены зборных каманд акадэміі па баскетболу і спартыўнай аэробіцы, пасля доўгіх разваг, куды б нам падацца адпачыць ды пазагараць, вырашылі: у родны санаторый-прафілакторый на Мінскім моры! Там якраз пачаў працаваць аздараўленча-спартыўны летнік.

Лета ўдалося. Сонца — спякотнае. Мора — ласкавае. І ўсім нам — вельмі весела! Змену мы адкрылі на свята Купалля. Аблівалі вадой усіх. А потым прыйшлі на агульнае пастраенне. Прарэктар па сацыяльнай рабоце Валерый Аляксандравіч Смёткін быў нешматслоўным: адпачывайце, загарайце, умацоўвайце здароўе! І пра трэніроўкі не забывайцеся!

Самадзейныя артысты акадэміі таксама прыехалі ў санаторый-прафілакторый адпачыць, паплаваць у моры. Зрабілі ўсім адпачываючым свае музычныя падарункі. На "біс" выступіў вядомы ўсім нам любімец публікі, студэнт другога курса Рэспубліканскага адукацыйнага цэнтра, майстар спорту па акрабатыцы Ілья Волчак. Яго сольны нумар спадабаўся кожнаму.

І вось — пясчаны ласкавы бераг Мінскага мора. Высока ў неба ўзнялося полымя вялізнага кастра, асвяціўшы ўсё навокал. Колькі было смеху, жартаў, песень, адмысловых розыгрышаў-конкурсаў! Забаўныя сувеніры і прызы ўручылі ўсім удзельнікам. Дыскатэкай да глыбокай ночы завяршыўся гэты дзень.

Ну, а потым паляцелі дні адпачынку і спартыўных спаборніцтваў. Настольны тэніс, валейбол, футбол, дартсу, більярд і, вядома ж, нашы прафесійныя віды — баскетбол, спартыўная аэробіка. І надвор'е на 100 працэнтаў апраўдала нашы надзеі. Чорнае, Эгейскае ды іншыя моры нам проста не патрэбны. Мы выбіраем Мінскае!

Калектыў у нашу аздараўленча-спартыўную змену падабраўся дружны. Здарова пастараўся спартклуб на чале з яго ўсюдысным, нястомным старшынёй Аляксандрам Анціпіным. Тон ва ўсім задавалі нашы трэнеры Ірына Іванаўна Баранава і Алена Анатольеўна Пачапень. У трыо з імі добра ўпісаўся арганізатар усіх спартыўных гульняў, інструктар па спартыўнай аэробіцы Сяргей Васільевіч Грычынскі.

Адпачынак прайшоў цудоўна. Так хочацца вярнуцца ў санаторый-прафілакторый зноў. Ды гэта і няцяжка!

**Людміла ПРАХАРЭНКА, член зборнай каманды БДПА па баскетболу.**

Дашкольнае выхаванне

## Захоўваецца высокі рэйтынг

**Сістэма выхавання на рубяжы эпох патрабуе асобнай размовы. Якой будзе дашкольная адукацыя ў XXI стагоддзі, у III тысячагоддзі?**

Сёння ў грамадстве няма адзінага погляду на дашкольную адукацыю. Так, ёсць меркаванне, што дзіцячыя сады не патрэбны ўвогуле, што адукацыю дзяцей дашкольнага ўзросту можна аддаць на водкуп бацькам і што менавіта яны могуць самастойна падрыхтаваць дзіця да будучай ступені адукацыі. Магчыма, для некаторай, невялікай, часткі насельніцтва рэспублікі гэтае пытанне непрымальнае. Але па попыце бацькоў на дашкольныя ўстановы ў Партызанскім раёне Мінска можна зрабіць выснову: у паслугах дашкольнага выхавання мае патрэбу пераважная колькасць бацькоў, у якіх ёсць дзеці дашкольнага ўзросту.

Выхаваўча-адукацыйны працэс у дашкольнай установе забяспечваюць педагогі-энтузіясты, якія аддаюць свае сэрцы самым маленькім грамадзянам. Яны могуць усё — абсталяваць групы і кабінеты, зрабіць цацкі, вучэбныя і гульневыя дапаможнікі і г.д. Пералік, на жаль, можна працягваць. Чаму "на жаль"? Ды менавіта таму, што дэфіцыт або адсутнасць фінансавання традыцыйных, надзённых патрэб сістэмы дашкольнай адукацыі "асуджае" педагогаў на такія ўменні. І ўсё-такі, нягледзячы на гэта ў нашым педагагічным калектыве мы прад'яўляем новыя патрабаванні да ўзроўню прафесіяналізму сучаснага выхавацеля.

Адной з асаблівасцей сістэмы адукацыі на сучасным этапе з'яўляецца варыянтнасць работы ўстаноў. Стварэнне нацыянальнай праграмы "Пралеска", "Канцэпцыі дашкольнага выхавання" і прыняцце шэрагу нарматыўна-прававых дакументаў азначае перагляд зместу адукацыі, яго абнаўленне і змяненне, інавацыйнасць педагагічных тэхналогій, аптымальнае спалучэнне індывідуальнай і сумеснай дзейнасці дзяцей у розных відах: гульні, канструяванні, выяўленчай дзейнасці, музычнай, тэатралізаванай, пазнавальнай. Нашай практыцы прапанаваны разнастайныя тэхналогіі і методыкі, якія могуць выкарыстоўвацца ў педагагічнай рабоце з дзецьмі.

Дашкольная ўстанова № 260 — тыпавая ўстанова, у якой функцыянуюць восем узроставых груп: "Малышы", "Чамучкі", "Фантазёры", эксперыментальная група па апрабацыі тэхналогіі М.Мантэсоры, два падрыхтоўчыя класы гімназіі № 7, дзве спецыяльныя групы для дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і група лагапедычная для дзяцей з агульным недаразвіццём маўлення. Асноўнымі прынцыпамі работы з дзецьмі з'яўляюцца:

— стварэнне ўмоў для развіцця індывідуальнасці кожнага дзіцяці;

— клопат пра эмацыянальна-асобаснае развіццё з вырашэннем задач навучання;

ахова жыцця і здароўя дзяцей з улікам узросту і індывідуальных асаблівасцей;

— стварэнне спрыяльнага сацыяльна-псіхалагічнага клімату ў дашкольнай установе;

— выхаванне дабрыні, спагадлівасці, рэалізуючы запавет "Шлях да душы дзіцяці — дабрыня".

Прыярытэтнымі напрамкамі работы дзіцячых устаноў сталі:

— фізічнае выхаванне сродкамі арганізаваных мерапрыемстваў, загартоўваннем, карэкцыйнай работай з дзецьмі, масажам, ЛФК, гуртковай работай;

— развіццё інтэлектуальна-пазнавальнай актыўнасці дзяцей метадам ТВВЗ;

— укараненне ў работу з дзецьмі тэхналогіі Марыі Мантэсоры.

Перагляд уласных педагагічных установак, фарміраванне новага мыслення, самавыхаванне — працэс складаны і працяглы. Яго тэмп значна адстае ад хуткасці распаўсюджання інфармацыі праз новыя праграмы і іх укараненне ў практыку. Педкалектыву цяжка перастройвацца, адмаўляцца ад фармалізаваных прыёмаў і аднастайных форм арганізацыі дзіцячай дзейнасці. Патрэбен "рухавік" — ініцыятыўны, аўтарытэтны, адказны і кваліфікаваны чалавек. Дзякуючы ўвядзенню ў штатны расклад з 1 студзеня 2001 года намесніка загадчыка па асноўнай дзейнасці і педагога-псіхолага, праца ў калектыве становіцца больш эфектыўнай.

Цяпер крыху пра эксперымент.

Тэхналогія М.Мантэсоры больш псіхалагічна камфортная для дзіцяці. Увядзенне тэхналогіі ў педкалектыў, укараненне яе элементаў работы з дзецьмі ва ўсіх узроставых групах мы ўсведамляем як неабходнае і своечасовае, таму што ў працэсе выкарыстання сістэмы выхавання павялічваецца магчымасць дыферэнцыяванага падыходу да выхаванцаў, што дазваляе забяспечыць паўнацэннае цэласнае развіццё асобы дзіцяці.

Вывучыўшы сутнасць тэхналогіі М.Мантэсоры, мы прыйшлі да высновы стварыць новую сістэму выхавання ў спецгрупе дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, заснаваную на прынцыпах гуманізму, дэмакратыі, індывідуальным падыходзе. Першым крокам было інтэграванне дзяцей са спецгрупы ў нармальна адаптаванае дзіцячае асяроддзе — лагапедычную групу і эксперыментальную групу. Вынік станоўчы і вельмі патрэбны з абодвух бакоў: здаровыя дзеці выхоўваюць у сабе пачуццё спагадлівасці, міласэрнасці, узаемадапамогі, хворыя — атрымліваюць падтрымку, радасць, натхненне ад удзелу ў жыцці дзіцячага калектыву. Мы, педагогі, адчуваем шчырую радасць ад таго, што можам аблегчыць жыццё нямоглых дзяцей. "Ад сэрца да сэрца" — дэвіз работы ў групе з дзецьмі-інвалідамі. Хацелася б мець больш высокакваліфікаваных медыцынскіх спецыялістаў для абслугоўвання і лячэбна-аздараўленчай работы з дзецьмі.

Кожнаму спецыялісту нашай сістэмы хачу пажадаць здароўя, цярпення, удач, умення знаходзіць выйсце з самых цяжкіх сітуацый і захоўваць высокі прафесіяналізм.

**Алена ЦІХАНАВА, загадчыца дзіцячага сада № 260 Мінска.**

Студэнцкая практыка

## І загаварылі стагоддзі...

***Запамінальным быў мінулы месяц для студэнтаў-гісторыкаў (першакурснікаў) Полацкага дзяржаўнага універсітэта (ПДУ). Ліпень стаў для іх часам вучэбнай практыкі.***

**Васіль Шайкоў, загадчык кафедры гісторыі і сацыялогіі ПДУ:**

— Студэнты першага курса археалагічную практыку праходзілі ў Полацку. Кіраваў ёю былы выпускнік нашага універсітэта Д.У.Дук, які паспяхова спалучае працу выкладчыка кафедры з вучобай у аспірантуры Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Пэўную метадычную дапамогу Дзянісу Уладзіміравічу аказваў археолаг Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка Віталь Уладзіміравіч Гаўрылаў (таксама былы выпускнік Полацкага дзяржуніверсітэта). Раскопкі вяліся на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка непадалёк ад будынкаў езуіцкага калегіума (кадэцкага корпуса). Знойдзена шмат цікавых рэчаў, якія дазваляюць аднавіць страчаныя старонкі гістарычнай спадчыны слаўнага горада.

Два студэнты-гісторыкі праходзілі практыку ў складзе міжнароднай археалагічнай экспедыцыі, якая працавала ў Старай Русе (Расія). Гэта стала магчымым дзякуючы падпісанаму паміж Полацкім і Ноўгарадскім дзяржаўнымі універсітэтамі ў студзені 2001 г. пагадненню аб супрацоўніцтве. Спадзяемся, што ў наступным годзе і студэнтам з Вялікага Ноўгарада будзе цікава паўдзельнічаць у раскопках старажытнага Полацка.

Звярну ўвагу на такую акалічнасць. Падчас практыкі студэнты далучаюцца і да такой "тонкай" справы, як рэстаўрацыйныя работы. Ужо больш дзесяці гадоў у Полацкай Спаса-Праабражэнскай царкве над выяўленнем і аднаўленнем старажытных фрэсак працуе вядомы беларускі рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі. У 1995 г. вучнем у яго працаваў студэнт-гісторык Аляксандр Рытаў (зараз аспірант Белдзяржуніверсітэта), а ў сёлетнім ліпені "вучняваўся" Дзяніс Гуткін.

З багатымі ўражаннямі і скарбонкай новых-старых песень, замоў, паданняў і легенд штогод вяртаюцца ўдзельнікі этнаграфічнай экспедыцыі. Геаграфія іх маршрутаў за гэты час праля гла праз Верхнядзвінскі, Расонскі, Бешанковіцкі, Міёрскі, Полацкі, Ушацкі, Глыбоцкі раёны.

Увосень па выніках летніх археалагічна-этнаграфічных экспедыцый будзе наладжана студэнцкая навукова-практычная канферэнцыя і выстава, якую збіраемся разгарнуць у фае бібліятэкі універсітэта.

**Дзяніс Дук, выкладчык кафедры гісторыі і сацыялогіі:**

— Мэтай раскопак з'явілася вывучэнне культурнага пласта тэрыторыі, якая прылягае з поўдня да будынка былога Полацкага кадэцкага корпуса. Культурны пласт склаў 1,8 — 2,4 метры.

Падчас раскопак былі разабраны развалы трох печаў, якія існавалі ў розны час у прамежку XVII-XVIII стагоддзяў. Дзве з іх можна цалкам рэканструяваць. Усе тры печы ўпрыгожвалі інтэр'ер сядзібы заможнага палачаніна, паколькі амаль усе фрагменты і цэлыя пласціны кафлі пакрыты шкляной палівай.

Самым цікавым было даследаванне пабудовы першай паловы XVI стагоддзя. Устаноўлена, што яна была летняга тыпу, і пра яе функцыянальнае прызначэнне дакладней можна будзе меркаваць пасля раскопкі ўсёй плошчы жылога дома.

Археалагічныя знаходкі характарызуюць адпаведныя гістарычныя эпохі.

Раскопкі далі новы багаты матэрыял па вывучэнні эканамічнага і культурнага развіцця старажытнага Полацка.

Знойдзеныя прадметы пройдуць апрацоўку і частковую кансервацыю ў лабараторыі кафедры гісторыі і сацыялогіі, пасля чаго будуць перададзены на захоўванне ў фонды Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Найбольш каштоўныя, без сумнення, будуць экспанавацца ў Полацкім краязнаўчым музеі.

**Тацяна Несцерава, студэнтка, староста групы:**

— У мінулым годзе, калі я паступала ў Полацкі дзяржуніверсітэт на спецыяльнасць "Гісторыя", з цяжкасцю верылася, што буду ўдзельнічаць у археалагічных раскопках.

Мы знайшлі такія рэчы, з якімі я сутыкнулася ўпершыню, напрыклад, салдацкі медальён, кадэцкія пагоны, гузікі, нават рэшткі тканіны мундзіраў.

Практыка вельмі паўплывала на згуртаванасць групы, мы сталі прыязней адносіцца адзін да аднаго.

Упэўнена, яшчэ не адзін дзесятак гадоў фотаздымкі, зробленыя падчас раскопак, і эмоцыі, якія мы атрымалі, будуць грэць нашы душы.

**Аляксандр Салаўёў, студэнт:**

— Дзеля практыкі можна вытрымаць любую сесію. Асабліва мне спадабалася працаваць з печчу, складзенай з ганчарных форм. Гэта быў сапраўдны іспыт па расчыстцы складаных аб'ектаў.

**Надзея Аніскавец, студэнтка:**

— Пасля практыкі засталіся самыя светлыя ўспаміны. І шмат фотаздымкаў. На наступны год, калі атрымаецца, мы абавязкова будзем "капаць" яшчэ раз.

**Падрыхтаваў Уладзімір НОВІК.**

Весткі з Капыльскага раёна

### Школа стане гімназіяй

Адна са старэйшых навучальных устаноў Капыльскага раёна, сярэдняя школа № 1 райцэнтра, з новага навучальнага года прыме сваіх выхаванцаў як гімназія. Нядаўна школьны будынак быў капітальна рэканструяваны, узведзена арыгінальная прыбудова.

Дырэктар Зінаіда Васільеўна Прыміч на гэты конт зазначыла:

— Педкалектыў і надалей будзе прыкладаць усе намаганні, каб удасканальваць навучальна-выхаваўчы працэс. Гэтага вымагае новы статус навучальнай установы.

Перакананa, што ў сценах гімназіі вучні будуць атрымліваць грунтоўныя веды па матэматыцы, фізіцы, філалагічных дысцыплінах.

### Як след шчыруюць дзеці

Адчувальную дапамогу ў рамонце класных пакояў, увогуле ў падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года аказалі старшакласнікі. Яны былі аб'яднаны ў 27 рамонтна-будаўнічых брыгад і 250 вытворчых звенняў.

Вынік усяго гэтага не стаў чакаць. На сённяшні дзень адрамантавана дзве тысячы адзінак школьнага абсталявання.

Як след шчыруюць вытворчыя брыгады-звенні: на іх рахунку 26 гектараў праполатай агародніны, 19 гектараў пасаджанага лесу, нарыхтаваны кармы для школьных коней.

Варта згадаць і наступнае. Школьнікі ў канікулярны час даглядаюць пэўную колькасць цялят, свіней, птушак. Вырučаныя сродкі ад іх продажу папоўняць спецрахункі школ.

Сабрана больш як 100 кілаграмаў лекавых траў.

**Мікалай ЛОСІК, арганізатар аддзела адукацыі Капыльскага райвыканкама.**

Увага!

**Шаноўныя чытачы! Просім аўтараў допісаў у рэдакцыю паведамляць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас.**

**Гэта неабходна пры налічэнні ганарару для падатковай інспекцыі.**

